● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

15 жніўня 1998 г. субота, № 160 (23511)



# ЗВЯЗДА

## ПАКУЛЬ ЕЗДЗІЦЬ ДАЧНІК, ДАРОГА НЕ ПАДАРАЖЭЕ

**Нягледзячы на тое, што фактычны ўзровень інфляцыі нярэдка перавышае вызначаныя штомесячныя паказчыкі, у бліжэйшы час тарыфы на прыгарадныя і міжгароднія аўтамабільныя пасажырскія перавозкі пераглядацца не будуць, паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве транспарту і камунікацый.**

У прыватнасці, павялічваць тарыфы на гэтыя віды перавозак ажно да лістапада Мінтрансу забаронена Камітэтам цэн. Праўда, міністэрства ўжо накіравала шэраг просьбаў у Камітэт цэн, Міністэрства фінансаў, Савет Міністраў дазволіць павялічыць тарыфы хаця б на гарадскія пасажырскія перавозкі. Аднак і ў гэтым транспартнікам пакуль адмоўлена з-за сацыяльнай значнасці гэтых паслуг.

Ім рэкамендавана трымацца, у прыватнасці, за кошт скарачэння выдаткаў. У сувязі з гэтым у Мінтрансе ўпэўнены, што ў бліжэйшыя месяцы, пакуль не будуць скончаны масавыя «дачныя» перавозкі людзей, аплата за карыстанне транспартам не зменіцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПАВЫШЭННЕ ТАРЫФНАЙ СТАЎКІ ПЕРШАГА РАЗРАДУ: ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ ПРАПАНОВЫ...

**Па-ранейшаму дастаткова вялікі ўзровень інфляцыі і, як вынік, рост цэн зноў нарадзіў шматлікія размовы аб павышэнні заробкаў. Карэспандэнт «Звязды» таксама вырашыў пацікавіцца гэтым пытаннем.**

Варта нагадаць, што апошні раз тарыфная стаўка першага разраду (менавіта ад яе перш-наперш залежаць заробкі) была павялічана з 1 студзеня гэтага года і з таго часу яе памер у 500 тысяч рублёў заставаўся нязменным.

Аднак, як паведамілі нам у Міністэрстве працы, пэўныя прапановы па змяненню тарыфнай стаўкі першага разраду сапраўды рыхтуюцца, прычым, існуе некалькі варыянтаў павышэння.

Які з гэтых варыянтаў акажацца ў рэшце рэшт канчатковым, стане вядома толькі пасля дэталёвых разлікаў цяперашніх магчымасцяў эканомікі. Гэтыя разлікі, як мяркуюць у міністэрстве, будуць зроблены прыкладна да канца жніўня.

**Сяргей ГРЫБ.**




Фота Ігара ПЯТРОВА.

ЭКСКЛЮЗІЎ

**Аляксандр СІВАК:**

## «КОЖНАЯ ДЗЯРЖАВА ПАВІННА БЫЦЬ ПАДРЫХТАВАНА ДА АБМЕЖАВАНАГА СПАЖЫВАННЯ ПАЛІЎНА-ЭНЕРГЕТЫЧНЫХ РЭСУРСАЎ»

***Напрыканцы ліпеня Міністэрствам эканомікі былі распрацаваны і зацверджаны «Мерапрыемствы па паніжэнню расходу паліўна-энергетычных рэсурсаў у абласцях і г. Мінску ў перыяд жнівень—снежань 1998 года». Каб пракаменціраваць дакумент, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да старшыні Камітэта эканомікі ПЭК і хімічнай прамысловасці Аляксандра Сівака.***

**— Аляксандр Уладзіміравіч, што паслужыла прычынай з'яўлення «Мерапрыемстваў па паніжэнню расходу паліўна-энергетычных рэсурсаў»? Чаму менавіта ў ліпені яны былі зацверджаны Міністэрствам эканомікі?**

— Усё было абумоўлена патрабаваннямі «Газпрама» аб паніжэнні спажывання газу ў Беларусі на 30 працэнтаў. Што рабіць дзяржаве ў такой сітуацыі? Такое пытанне адразу б узнікла таму, што 30 працэнтаў (больш чым чвэрць агульнага аб'ёму) — лічба сур'ёзная. Да наступстваў абмежаванай пастаўкі газу з Расіі трэба быць падрыхтаваным, каб потым хаатычна не мітусіцца і не ведаць, што рабіць і куды бегчы. Як бачым, на канец ліпеня, калі існавала рэальная пагроза змяншэння аб'ёмаў спажывання, неабходна было распрацаваць адпаведныя меры. План, «сцэнарый» нашых дзеянняў. Прычым, як вы памятаеце, «Газпрам» нават назваў пачатак сваіх санкцый — з 1 жніўня. Таму трэба было дзейнічаць апе-

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ДЭВАЛЬВАЦЫЯ РАСІЙСКАГА РУБЛЯ АДКЛАДВАЕЦЦА

**У Беларусі ўпэўнены, што крызіс на расійскім фінансавым рынку асаблівых узрушэнняў на айчынным не выкліча.**

Днямі рынак Расіі спасціг чарговы ўдар, які амаль імгненна паралізаваў банкаўскую сістэму гэтай краіны.

Імклівае падзенне курса каштоўных папер унесла карэктывы на фондавы рынак — ён практычна застыў. Запанікавалі і расійскія банкіры. Банкі ў чацвер спынілі ўзаемныя аперацыі, не выдавалі адзін аднаму пазыкі, не гандлявалі паміж сабой валютай. Як лічаць расійскія эксперты, усё гэта стала вынікам падзення напярэдадні курса дзяржаўных аблігацый, якіх шмат у партфелях расійскіх банкаў. Партфелі патаннелі, і ў банкаўскім сектары, маўляў, узнікла сітуацыя, якую называюць крызісам даверу.

Наколькі сітуацыя, што склалася ў Расіі, можа паўплываць на падзеі ў Беларусі? Многія фінансісты, з якімі давялося весці гутарку, упэўнены, што асаблівых узрушэнняў у нас не прадбачыцца. Магчыма, мяркуюць некаторыя, пэўныя банкі рэспублікі, якія вялі гульню на расійскім фондавым рынку, і панясуць страты. Хоць не выключана і тое, што нехта застанецца і ў выйгрышы: галоўнае — наколькі прафесійна весці гульню, спрагназаваць развіццё сітуацыі. Выказваюць некаторыя нашы банкіры і думку аб тым, што чарговы ўдар у РФ па фінансаваму рынку не што іншае, як арганізаваная буйнейшымі спекулянтамі свету кампанія, накіраваная на тое, каб паспрабаваць выкачаць з міжнароднага валютнага фонду грошы. Апошнія ў выніку спекуляцый могуць аказацца ў актыве канкрэтнай асобы.

Што датычыцца самаадчування камерцыйных банкаў Расіі, якія непасрэдна аказаліся ўцягнутымі ў крызісную сітуацыю, то падобна Цэнтрабанку РФ беларускія эксперты прытрымліваюцца аптымістычных прагнозаў: масавых банкруцтваў там не прадбачыцца. Падобна, не прадбачыцца і дэвальвацыі расійскага рубля, што несумненна адбілася б і на рынку Беларусі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ДРУГІ ЎКОС ЯШЧЭ ДАЛЁКІ ДА ЗАВЯРШЭННЯ

Сітуацыя з нарыхтоўкай кармоў застаецца складанай. Як вядома, сёлетні планавы паказчык на 10—12 працэнтаў пераўзыходзіць леташні, аднак, мяркуючы па сённяшніх лічбах, дабіцца належнага ўзроўню будзе няпроста.

Першы ўкос нідзе не даў 100-працэнтнага паказчыка апрацаваных плошчаў — увогуле па Беларусі гэтая лічба склала 97,3 працэнта.

Другі ўкос пакуль знаходзіцца толькі ў пачатковай стадыі (хоць, мяркуючы па часе, ён ужо павінен завяршацца) — усяго скошана крыху больш за 27 працэнтаў неабходнай колькасці траў. Самыя вялікія паказчыкі трымае Гродзеншчына — 46,3 працэнта, менш за ўсіх апрацавана плошчаў на Міншчыне — 19,5.

Травяных кармоў пакуль нарыхтавана ўвогуле ўсяго 63,9 працэнта планавага паказчыка (прычым прырост за сутки склаў толькі каля 2 працэнтаў).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Аб'ём **крэдытных укладанняў** банкаўскай сістэмы ў народную гаспадарку рэспублікі з пачатку года павялічыўся на 33,6 працэнта.

У сталіцы краіны ў першым паўгоддзі ў сярэднім за суткі **ўчынялася 58 злачынстваў**, з якіх 38 адносяцца да кампетэнцыі крымінальнага вышуку.

Па экспертных ацэнках, колькасць **нелегальных мігрантаў** на тэрыторыі рэспублікі складае амаль 100 тысяч чалавек.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 14 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 58000 | 58700 | 32000 | 32970 | 9000 | 9300 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 58000 | 59000 | 32350 | 32900 | 9200 | 9350 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 57500 | 59000 | 32100 | 32900 | 9000 | 9300 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) афіцыйны курс | 44100.00 | | 24671.33 | | 6980.00 | | Курс на 15.08.1998 |
| спецыяльны курс | 49950 | | 28250 | | 8000 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2900 | | 3.5 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогодняга даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па нумару (017) 228-59-80.***

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс *(міжбанкаўскі рынак)* | 82000 | 84500 | 45861 | 47273 | 12713 | 13307 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс *(прыблізна)* | 68500 | 69000 | 38200 | 38700 | 10500 | 11000 | |

## УВАГА!

**Падпіска на «Звязду» па нізкаму кошту ў сталічным «Белсаюздруку»**

Мінскае гарадское аптоваразнічнае аб'яднанне «Белсаюздрук» праводзіць у сваіх пунктах падпіскі і магазінах сталіцы падпіску на газету «Звязда» на чацвёрты квартал 1998 года па паніжаных цэнах.

Так, адзін камплект нашай газеты, на які падпіска будзе афармлена ў «Белсаюздруку», будзе для вас каштаваць:

**індывідуальная падпіска:**

*1 месяц: 20000 руб.*

*3 месяцы: 60000 руб.*

**ведамасная падпіска:**

1 месяц: 40000 руб.

3 месяцы: 120000 руб.

Майце на ўвазе, што газету з кіёска трэба будзе забіраць самім, а падпіска заканчваецца пры гэтых умовах 26 верасня.

**Даведкі па тэл. 227-28-41, Мінскі «Белсаюздрук».**

## УСМІХНЕМСЯ!



**Цудоўная рэч — канікулы! Шкада, заканчваюцца хутка...**

*Сустракаюцца дзве сяброўкі. Адна другой скардзіцца:*

*— Ведаеш, мой ноччу так лаецца, так лаецца, аж страшна. А твой размаўляе праз сон?*

*— Не. Мой толькі ўсміхаецца, зараза.*

❑

*Едзе мужчына на машыне. Насустрач яму жанчына — таксама на аўто. Параўняўшыся, яна апускае шкло і крычыць:*

*— Казёл!*

*Мужчына не пакідае гэта без адказу і ўслед таксама крычыць:*

*— Сама дурная!*

*Потым заязджае за паварот і пасярод дарогі ўрэзаецца ў казла.*

❑

*Сустракаюцца два прыяцелі-паляўнічыя. Адзін хваліцца:*

*— Я ўчора застрэліў лісу. Будзе жонцы на каўнер.*

*— А я два вожыкі — цешчы на вусцілкі.*

❑

*Прыходзіць кліент да майстра па рамонту гадзіннікаў. Павітаўся, падаў квітанцыю. Майстар прыносіць кліенту адрамантаваную рэч. Той прыслухаўся і здзіўлена пытае:*

*— Ён хіба цікае?*

*— А як жа! Я ж яго адрамантаваў.*

*— Але... да рамонту гэта быў барометр.*

# «АНІСКІН» І МАРАК

## Чалавека пакрыўдзілі ў міліцыі і з гэтага нічога не выцякае...

«З ВЯРТАЕЦЦА да вас жыхар в. Дуброва Маладзечанскага раёна Мурза Сцяпан Уладзіміравіч. Вельмі патрэбна ваша дапамога. Я працаваў газаэлектразваршчыкам у калгасе «Дуброва». З чэрвеня 1997 года і па сённяшні час не працую. Мае бацькі пражываюць у в. Гіневічы Валожынскага раёна. Абодвум пайшоў дзевяты дзесятак. Цяпер жыву з бацькамі, бо ім патрэбна фізічная дапамога.

У мяне ўзнікла канфліктная сітуацыя з участковым інспектарам Залесскага сельсавета Палянскім В.І.

У сакавіку гэтага года былі абкрадзены дачы ў в. Эпімахі. 10 сакавіка да мяне прыехалі супрацоўнікі Ракаўскага аддзялення міліцыі (следчы і сяржант). Пасадзілі ў машыну, расказваць, што краў я. Па іх словах, знайшлі след веласіпеда. Веласіпед у мяне ёсць. 8 сакавіка я па сваіх справах ездзіў да родзічаў у в. Новы Двор. Каля дома бацькоў застаўся след веласіпеда. Гэта мне і паставілі ў віну. Пасля рашучых парад прызнацца ў крадзяжы (чаго не было), прывезлі мяне да дому і паехалі.

У чэрвені г.г. да мяне прыехаў участковы Палянскі. Пачаў патрабаваць вярнуць колы, што зніклі са склада ў Гіневічах. Да гэтага я зрабіў воз Зяневічу Б.І. з в. Дуброва. Паехалі да яго. Агледзелі воз, крадзеных колаў не аказалася.

У ліпені зноў прыехаў Палянскі. Прымусіў сесці ў машыну, маўляў, пагаварыць трэба. Адвёз мяне ў сельсавет, закрыў у сваім кабінеце. Пачаў пад пагрозамі патрабаваць, каб я прызнаўся ў крадзяжах на дачах. Пагражаў, напрыклад, адвезці ў Валожынскі РАУС, у «бункер», каб, па яго словах, «дабавіць» мне здароўя. Абяцаў, што скажа сваім сябрам з РАУС, што я аказваў пры допыце супраціўленне. Патрабаваў таксама, каб я напісаў тлумачальную: нібыта быў п'яны, дрэнна ўсё разумеў, а таму паехаў на дачы шукаць самагон і ажыццявіў крадзеж.

18 ліпеня прыехалі да мяне Палянскі і сяржант Савіч. Сілай пасадзілі ў машыну, завезлі ў сельсавет. Там у кабінеце зноў прымушалі прызнацца. Потым пачалі біць. Савіч біў дубінкай па спіне, па нагах, у грудзі, у галаву. Пасля гэтага сказалі, каб я знайшоў злодзея і тады падобных размоў не будзе.

21 ліпеня папрасіў чалавека, ён мяне адвёз у Радашковіцкую бальніцу. Зрабілі здымкі. Заключэнне знаходзіцца ў хірурга.

Падобных адносінаў да сябе і шантажу цярпець больш не магу. Вельмі прашу разабрацца».

Пасля такіх пісьмаў першае імкненне — кідаць усё і ехаць у камандзіроўку. Шукаць, ратаваць, дабівацца справядлівасці і гэтак далей. Першае імкненне трэба перацярпець, бо, з другога боку, у такіх гісторыях усё ясна з самага п а ч а т к у. Ехаць, канешне, трэба. Але толькі для пацвярджэння першапачатковага ўражання. А яго абвяржэнне бывае вельмі і вельмі рэдка...

### 1.

А Валерый Іванавіч Палянскі мне спадабаўся, нягледзячы нават на юны ўзрост. Яму ўсяго 23 гады. У міліцыю Валерый Іванавіч трапіў пасля тэхнікума і якраз пасля «чысткі радоў», якая мела месца ў Валожынскім РАУС апошнія год-паўтара. Валожынскі раён, мякка кажучы, мае дрэнную рэпутацыю, што датычыць вырабу і асабліва ўжывання моцных спіртных напояў саматужнага паходжання. Колькі галоў з-за гэтага паляцела... Вось і Валожынскі РАУС апошнім часам «ачысціўся», па словах намесніка начальніка падпалкоўніка Мельніка, ледзь не на трэцюю частку.

— Каля сарака чалавек прыйшлося звольніць, — скардзіўся Віктар Сцяпанавіч. — У штат мы набралі маладых хлопцаў. Але маладосць, як гаворыцца, гэта не прафесія. Вопыту ў хлопцаў не хапае. І атрымліваецца: як толькі міліцыя не дапрацавала, дык чакай скаргаў. Тут такі ж выпадак. Чаму гэты Мурза лічыць, што Палянскі — апошняя інстанцыя? Мог бы напісаць начальніку РАУС, у пракуратуру, нарэшце. Чаму — адразу ў газету? Вось цяпер праславімся на ўсю краіну...

Я Віктара Сцяпанавіча разумею: вышэйстаячае начальства вельмі не любіць, калі прозвішчы падначаленых пачынаюць мільгаць на старонках газет, ды яшчэ ў такім кантэксце. Але што зробіш, у міліцыі свая работа, у журналістаў — свая.

Якраз у адпаведнасці з гэтым участковы інспектар Палянскі сцвярджаў, што Сцяпана Мурзу ніхто і ніколі не біў. А было так:

— 18 ліпеня мы прыехалі да Мурзы, бо ён падазраваўся ў крадзяжах на дачах у вёсцы Эпімахі. І сляды абутку супадалі, мы потым яго знайшлі. Але Мурза ні ў чым не прызнаўся. Між іншым Мурза быў у той дзень п'яны. Ён нам сказаў, што нічога гаварыць не будзе, бо не вінаваты. Ну, мы так пагаварылі і адпусцілі яго. Я яшчэ пасадзіў Мурзу на калгасны аўтобус... І ніхто яго не біў.

Далей размова плаўна перацякла ў вобласць недахопаў Сцяпана Уладзіміравіча Мурзы. Як і ўсе мы, ён, вядома, не анёл. З жонкай развёўся, праўда, «элементы», па выразу Валерыя Іванавіча, ужо не плаціць. «Залатыя рукі», але п'е. У нецвярозым стане скандаліць, і бацька некалькі разоў скардзіўся ў сельсавет, прасіў, каб «прыйшлі і папужалі». Галоўны інжынер саўгаса «Залесскі» нібыта гаварыў, што некалі скралі ў гаспадарцы дэталь, а потым знайшлі яе ў Мурзы. Справа, маўляў, скончылася вяртаннем дэталі па месцы прызначэння. Яшчэ Сцяпан Уладзіміравіч не прапісаны ў бацькоў, жыве на іх пенсію ды на грошы ад «халтурнай» дзейнасці.

Такім чынам вымалёўваецца непрывабны, прама скажам, амаральны тып, якому самае месца ў... Ну, вы ведаеце — дзе.

Яшчэ Валерый Іванавіч паведаміў, што аднойчы зайшоў да бацькоў Мурзы і на пытанне «дзе сын?» яны адказалі: «А, недзе гарэлку шукае». У вуснах юнага ўчастковага гэта гучала прыкладна: «А, недзе пайшоў людзей рабаваць на вялікай дарозе». Гаварыў Валерый Іванавіч вельмі ўпэўнена і на яго шчоках палаў праўдзівы румянец...

### 2.

У хаце Уладзіміра Сцяпанавіча (1910 года нараджэння) і Веры Назараўны (1914 года нараджэння) Мурзаў адчувалася непрыхаваная беднасць. У такіх хатах людзі дажываюць...

Сустрэла мяне гаспадыня: гаспадар пайшоў па траву для каровы, а сын дапамагаў суседу-пагарэльцу вазіць бярвенне. У суседа згарэў хлеў і гэта было самай важнай падзеяй у вёсцы Гіневічы апошнім часам.

Нарэшце падышоў гаспадар. Мы з ім пагаварылі і Уладзімір Сцяпанавіч сумна пацвердзіў: так, сына міліцыя моцна пакрыўдзіла. Ажно некалькі дзён не мог у хату прынесці вады. Яшчэ двое сыноў жывуць, адзін у Маладзечанскім раёне, а другі — у Мінску. Сцяпан — малодшы дый без сям'і, значыць, дапамагаць, вырашылі браты, будзе старым ён. «Пакрыўдзіўся хлопец моцна», — зазначыў Уладзімір Сцяпанавіч, а неўзабаве прыехаў і Сцяпан Уладзіміравіч. Як вы самі разумееце, у яго некалькі іншы, чым у участковага, погляд на гэту справу.

— Не, супраць Палянскага я нічога не маю. Ён і не біў амаль. Гэта той сяржант стараўся. А як было? Я тады ў сакавіку ездзіў да стрыечнага брата. Ну, шчыра сказаць , па 100 грамаў перакуліць... Канешне, не вельмі прыгожа, але што тут крымінальнага? І пры чым тут крадзеж? Я за ўсё жыццё ніколі чужога не браў, лепш сваё аддам.. Адным словам, моцна мяне пакрыўдзілі. Нібыта я злачынец нейкі...

Ездзіў я ў Радашковічы толькі праз тры дні. А таму што аўтобус не ходзіць. Здымкі зрабілі, панёс я іх хірургу, а той на выездзе быў. Ну, абяцалі зрабіць заключэнне і пазваніць у міліцыю.. Так што на руках у мяне дакументаў няма.

— Чаму ж не звярнуліся ў Валожынскі РАУС?

— Ведаеце, я ж тут не прапісаны. Ну і паслаў заяву ў Маладзечна.

— А чаму не прапісаны?

— Калі прапішуся, то ў бацькоў скасуюць ільготы. А з работай... Ды можна, канешне, але зарплата — паўтара мільёна і тую па паўгода не плацяць. Дык лепш на халтурах. Тут адразу плацяць, хоць нейкая капейка ў хату. Вось увосень пайду качагарам у школу. Там надзейна...

Вулічная мянушка ў Сцяпана — Марак. Ён некалькі год служыў на падводных лодках і дагэтуль носіць цяльняшку. Рукі ў яго сапраўды залатыя...

### 3.

Як жартуюць медыкі, любы боль можна перанесці, калі ён чужы. Праўда, можна паспрабаваць паставіць сябе на месца таго, у каго баліць. Гэта, канешне, не тое, але пры багатай фантазіі можна наблізіцца да, так бы мовіць, першакрыніцы.

Білі ці не білі Сцяпана Мурзу — «есть сие тайна великая». Кожны, вядома, будзе стаяць на сваім. Прычым, міліцыянерам будзе значна лягчэй. Сведкаў няма, дакументаў, па вялікаму рахунку, таксама. Хочаш, Сцяпан Уладзіміравіч, праўды, даказвай, а мы тут так, трамвая чакаем.

А Мурза і сам дае магчымасць прычапіцца. «Элемент» ён і праўда сумніўны. Гарэлку п'е, не працуе, з сям'ёю развёўся, «сігналы» паступалі, — ну, значыць, наш кантынгент. Можа быць так, а можа быць і не так, разважаў участковы інспектар Валерый Іванавіч. Не магу сказаць дакладна. Пра што магу гаварыць упэўнена, дык гэта пра малую вопытнасць участковага. Ці, дакладней, пра няправільную вопытнасць.

Яго, відаць, так навучылі старэйшыя таварышы. Неабавязкова начальства. Нават і хутчэй не начальства. Такія ж як ён, але ўжо вопытныя. Што такое прэзумпцыя невінаватасці, Валерый Іванавіч, пэўна ведае. А толькі ў жыцці яна перашкаджае. У жыцці Валерый Іванавіч, верагодна, кіруецца простым і эфектыўным прынцыпам: быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца. След веласіпеда, безумоўна, страшная ўліка, але якія ў участковага былі яшчэ падставы падазраваць Сцяпана Мурзу? Абсалютна ніякіх. Лад жыцця чалавека яшчэ не ёсць ўліка.

Я, прашу прабачэння, захапляюся палітычным дэтэктывам. Ну, там, Джон Ле Карэ, Грэм Грын, Фрэдэрык Фарсайт і інш. Па логіцы Валерыя Іванавіча мяне, значыць, ёсць падставы падазраваць у арганізацыі замаху на жыццё якога-небудзь палітыка. Не менш.

Не трэба, Валерый Іванавіч, бегчы наперадзе паравоза. Вінаваты чалавек ці не — гэта рашае суд. А ваша задача даволі лакальная: правесці дазнанне і прадставіць суду такія ўлікі, пасля якіх у таго не было б сумненняў. Мне так здаецца. Ці я памыляюся?

А ўвогуле, канешне, гэта праблема выходзіць далёка за межы вёскі Гіневічы. Гэта праблема ўсяго грамадства. Я іншы раз думаю: калі б у нас усюды і заўсёды паважаліся правы асобы, то жыццё проста спынілася б. Без перабольшання. Спыніліся б заводы і фабрыкі, замерла б жыццё ў вёсках, перасталі б функцыянаваць установы і арганізацыі... Гэта, калі б мы ўсе пачалі рабіць выключна па літары закона.

Праўда гэта ёсць адваротны бок медаля. І нам ён, хачу запэўніць, пакуль ніяк не пагражае...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*Пра гэты выпадак, не без тайнай думкі, я расказаў аднаму знаёмаму, чалавеку «прасунутаму», дэмакратычнаму і «прагрэсісту». «А што ты думаеш, — імгненна адрэагаваў знаёмы, — я не сумняваюся, што гэта ён на дачах краў». А я, у сваю чаргу, не сумняваюся, што дзевяць з дзесяці скажуць тое ж самае. І гэта самы сумны вынік гэтай гісторыі.*

*Можа быць, не ва ўсім вінаватая міліцыя? Яна толькі частка грамадства і, воленс-ноленс, вымушана ўлічваць грамадскае меркаванне. Сваімі адносінамі мы ёй даём карт-бланш на дзеянні, якія часта далёкія ад закона. Гэта калі мы трапляем за краты без усякіх на тое падстаў, толькі тады абуджаюцца думкі і пачуцці.*

*Чужая гісторыя нас, канешне, абурае, але не надоўга. Затое: «Мала саджаюць! Трэба больш! Расстрэльваць трэба!» І калі мы гаворым гэтыя страшныя словы, то зусім не думаем аб нейкіх казытлівых падрабязнасцях. Святое пачуццё справядлівасці рухае намі ў гэты момант — «крыві прагнем!»*

*А трэба толькі памятаць, што ніхто ні ад чаго не застрахаваны...*

## ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

### САЛЬМАНЕЛА САЛОДКАЕ ТАКСАМА ПАВАЖАЕ

**У Драгічынскім раёне зарэгістравана ўспышка сальманэлёзу: з 5 па 9 жніўня за медыцынскай дапамогай тут звярнуўся 61 хворы. Трэба заўважыць, што палову з пацярпелых (31 чалавек) складаюць дзеці. Па словах спецыялістаў, ва ўсіх інфіцыраваных хвароба працякае ў лёгкай ступені і ў дадзены момант у інфекцыйны стацыянар шпіталізавана 47 чалавек.**

Згодна інфармацыі, якая «прасачылася» ў некаторыя рэспубліканскія газеты, горад «паклала ў ложак» інфіцыраванае марожанае, аднак у раённым Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі такую версію развіцця падзей катэгарычна абверглі. Практычна на 99 працэнтаў урачы-гігіеністы ўпэўнены, што крыніцай распаўсюджвання інфекцыі сталі кандытарскія крэмавыя вырабы, а, дакладней, пірожныя мясцовай вытворчасці, хаця канчатковага вердыкту на гэты конт пакуль не вынесена.

На сённяшні дзень, каб лакалізаваць інфекцыю, згодна з пастановай галоўнага санітарнага ўрача раёна, на ўсёй яго тэрыторыі забаронена рэалізацыя кандытарскай прадукцыі. І з 9 жніўня новыя хворыя ўжо больш у рэгіёне не рэгіструюцца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### ЗАБІЛІ І СПАЛІЛІ

Мінула два гады з таго часу, як знік жыхар Баранавіч Залазаеў.

І вось аператыўнікам удалося высветліць усе падрабязнасці знікнення 27-гадовага хлопца.

Залазаеў зайшоў да сваіх знаёмых, двух братоў. Падчас выпіўкі ўзнікла непаразуменне і малодшы, 16-гадовы брат, ударыў госця нажом. Залазаеў памёр адразу ж, удар прыйшоўся ў сэрца. Браты замітусіліся, бо трэба было штосьці рабіць з забітым. У гэты час у пакой зайшоў іх бацька. Ён і прапанаваў спаліць Залазаева ў качагарцы базы, куды збіраўся на дзяжурства. Забітага расчлянілі і ў мяшках даставілі ў качагарку.

Малодшага брата арыштавалі ў вайсковай часці, дзе ён адбываў тэрміновую службу. Наперадзе суд.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

На ўскраіне Парыжа ў маленькім кафэ наведвальнік адзін за адным перакульвае кілішкі з гарэлкай. Яго сусед не вытрымлівае і кажа:

— Прабачце, а вы ведаеце, што кожны трэці француз, які злоўжывае алкаголем, пакутуе ад хваробаў печані?

— Мяне гэта не хвалюе. Я — беларус.

• • •

Бацька на падпітку і не ў гуморы вяртаецца дахаты.

— Сын, нясі дзённік!

Пакуль сын шукае дзённік, бацька паспявае задрамаць.

— Тата, прынёс.

— Прынёс? Адкрывай!

— Адкрыў.

— Адкрыў? Налівай!



## ГУМАРЭСКА

### Свае людзі

У жыцці Жоры Ступкі шмат было праколаў, але найбольш ён даў маху, калі жаніўся з Эльвірай.

Заглянуў аднойчы Жора ў клуб «Квазар», наведвальнікі якога кожную суботу збіраліся на мансардзе мясцовага мастака. Гаварылі пра лятаючыя талеркі, планеты, ўздымалі глабальныя пытанні, глядзелі ў школьны тэлескоп і пілі гарэлку.

Вось там Жора паглядзеў на акуляр тэлескопа, а зазірнуў у чорныя вочы Эльвіры.

Маці выбар сына не адобрыла.

— Жорык, трэба браць сваю.., — гаварыла маці, — каб і дзеткі былі, як ва ўсіх.

Але калі маці глядзела на абразы, то сын у тэлескоп, ды ў вочы Эльвіры.

Жора ажаніўся, але справа да дзяцей не дайшла. Пасля жаніцьбы Ступка неяк адразу паў духам. Эльвіра любіла разважаць пра НЛА і сусвет, але не любіла прасаваць штаны мужа і мыць яго шкарпэткі, а гатаваць умела толькі яечню. Ляпне яйка аб край патэльні і на стол....

Жора развёўся і зноў ажыў. Маці гатавала смачна і адпрасаваныя штаны заўсёды былі пад рукой.

Больш жаніцца Ступка не збіраўся. Але захварэла маці, і Жора ўжо хадзіў у кашулі, каўнер якой быў з траурнай аблямоўкай наўкол шыі. Хадзіў без настрою, няголены і пануры.

І тады сказала маці:

— Табе, Жорык, жаніцца трэба. А то я колькі яшчэ ў бальніцы праваляюся. Глядзі, адно, выбірай сваю...

Толькі як тут ажаніцца? На дыскатэку бегаць — стараваты, а па рэстаранах жонку выбіраць не выходзіць, ды і грошай няма.

Але аднойчы начальнік яго аддзела Мікалай Мікалаевіч за абедам падсеў да Жоры.

— Георгій, табе пара і ачалавечыцца. А то, чэснае слова, глядзець на цябе адна нудота. Вунь Іра Лампадава з тэхінфармацыі — дзеўка хоць куды, — гаварыў начальнік, тузаючы відэльцам шніцаль.

У пятніцу з аддзела інфармацыі запрасілі канструктараў адзначыць дзень хіміка. Жору пасадзілі побач з Ірынай. Ступка пра космас ужо забыўся, а яго цяпер хвалявалі праблемы вечнага рухавіка і тут аказалася, што Ірына Сямёнаўна шмат ведае...

Праз нейкі тыдзень Жора хацеў бачыць Іру кожны дзень, а яе прозвішча для Ступкі мела тайну, у ім чулася штосьці царкоўна-славянскае, старадаўняе.

А маці, як толькі ўбачыла Ірыну, прыйшла ў захапленне.

— Вочкі аж свецяцца, Жорык. .... Тут не зблытаеш — свой чалавек.

Сапраўды, калі ў вачах Эльвіры калісьці адлюстроўвалася ноч, то ў Ірыны — блакіт неба.

І пайшоў Георгій з Ірынай у ЗАГС. Зрабілі ў гэты ж дзень невялікае застолле, а затым паехалі ў Падмаскоўе — там жылі бацькі жонкі.

* * *

Ірына націснула кнопку званка, а Жора стаяў з букетам кветак і падарункамі для цешчы, цесця і швагра.

Дзверы адчыніліся. Ступка ўбачыў жанчыну і зразумеў, што гэта яго цешча.

— Сіма, Фіма, паглядзіце, хто да нас прыехаў! — усклікнула цешча і абняла дачку і зяця.

А потым цесць падліваў у чаркі, а цешча падкладвала ў талерку фаршмак і Жора, ужо крыху падвыпіўшы, з замілаваннем глядзеў на сваю радню і слухаў швагра Фіму, які расказваў пра дзядзю Веню і Ерусалім... такі далёкі і блізкі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

ПЫТАЛЬНІК

## ДЗЕ ЛЯЧЫЦЬ КАСАВОКАСЦЬ?

**Паважаны «Пытальнік», падкажы, ці лечаць дзе-небудзь у Беларусі касавокасць?**

**Загадзя ўдзячная, Алена М., Глыбокае.**

Безумоўна, гэтую хваробу лечаць. У сталіцы гэта робяць у 10-й і 3-й клінічных бальніцах, на базе якіх размешчаны Рэспубліканскі афтальмалагічны кансультатыўны цэнтр. У 10-й бальніцы прымаюць жыхароў Брэсцкай, Мінскай і Магілёўскай абласцей (тэлефон (017) 240-19-18), у 3-й — з Віцебшчыны, Гомельшчыны і Гродзеншчыны. Вам неабходна ўзяць накіраванне ў мясцовай паліклініцы ў Рэспубліканскі афтальмалагічны кансультатыўны цэнтр — звярніцеся з такой просьбай да свайго ўрача. І накіроўвайцеся ў Мінск у 3-ю бальніцу. Па адрасу вул. Леніна, 34 прымаюць кожны дзень акрамя суботы і нядзелі. Лепш наведаць гэтую ўстанову з раніцы. Спецыялісты пракансультуюць вас і параяць, якім чынам змагацца з касавокасцю. Далёка не заўсёды, каб пазбавіцца гэтага недахопу, трэба рабіць аперацыю. Больш падрабязна на вашы пытанні адкажуць па тэлефоне (017) 226-04-12.

---



# Маленькага Іллю будуць ратаваць

У нямецкім горадзе Аўгсбургу прайшла дабрачынная фотавыстава фатографа газеты «Звязда» Анатоля Клешчука для збору сродкаў на аперацыю беларускаму хлопчыку. Два тыдні ў старажытным храме Святой Ганны паказваліся лепшыя работы майстра з яго вядомай у многіх краінах свету серыі «Зона журбы».

— Гэта была адна з самых наведваемых і самых плённых маіх выставак у падтрымку хворых дзяцей Беларусі, — дзеліцца ўражаннямі аўтар, — нягледзячы на летні сезон, сярэдзіну ліпеня, і вельмі сумную тэматыку.

Поспеху выставы садзейнічала найлепшая рэклама — праз тэлебачанне, газеты. Было бліскучае афармленне фотаздымкаў у зале. Па горадзе былі размешчаны афішы, некалькі тысяч запрашэнняў было выслана бізнесменам.

Цяпер маленькі жыхар Мінска Ілля Ляхаў знаходзіцца на адпачынку ў Баварыі, а пазней ён разам з мамаю адправіцца ў Мюнхен, дзе адбудзецца аперацыя. Тое, што пакуль не падсілу беларускай медыцыне, здольны зрабіць нямецкія спецыялісты. А трэба — ліквідаваць пухліну на твары хлопчыка, якая год ад году павялічваецца.

Убачыўшы аднойчы гэтага хлопчыка, нямецкі доктар Франц Дзітльман паставіў перад сабой мэту выратаваць Іллю, даць яму шанс вырасці не толькі здаровым, але і прыгожым. Гэты немец стаў ініцыятарам і арганізатарам дабрачыннай акцыі.

Сродкі для аперацыі, сабраныя на выставе і пасля яе, — гэта шчырая дапамога самых розных, але ў большасці простых людзей, іхняе разуменне чужой бяды. Зразумела, бацькі Іллі ніколі не знайшлі б неабходныя на лячэнне сродкі — дзесяткі тысяч дойчмарак.

Спадзяёмся, пасля вяртання Іллі Ляхава з мюнхенскага шпіталя ў «Звяздзе» з'явіцца яшчэ адна публікацыя пра яго лёсавызначальнае падарожжа. І, вядома, мы не можам не радавацца за свайго калегу, за плён яго працы, якая працягваецца ўжо не першы год.



**НА ЗДЫМКАХ:** Ілля Ляхаў перад паездкай у Нямеччыну; нямецкія школьнікі на выставе; лютаранская царква Святой Ганны, дзе адбывалася фотавыстава.

---

**«Чытайце, вырашайце...» Усё гэта я перажыла асабіста, такога знарок не прыдумаеш», — прызнаецца ў сваім лісце аўтарка, настаўніца з Баранавічаў.**

**А мне, карыстаючыся выпадкам, хацелася б яшчэ раз нагадаць усім, хто дасылае ці прыносіць у рэдакцыю творы на конкурс: паведамляйце, калі ласка, адрас і нумар тэлефона, хоць сякія-такія звесткі пра сябе, а таксама не забывайцеся прыкласці да рукапісу фотаздымак, пажадана не «афіцыйна-пашпартны».**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

*Алена БАРАДЗІНА*

# САЧЫНЕННІ

## АПАВЯДАННЕ

На дошцы было выведзена: «Самы шчаслівы дзень у маім жыцці». Пяцікласнікі нарэшце ўгаманіліся і, атрымаўшы ад настаўніцы адказы, здаецца, на ўсе магчымыя і немагчымыя пытанні, пачалі пісаць, перабіраючы ў памяці дні свайго яшчэ небагатага на падзеі жыцця. Яна любіла назіраць за імі ў такі час. Але сёння чамусьці звыклага супакаення душы ў яе не было. Яго парушылі згадкі, навеяныя немудрагелістай тэмай школьнага сачынення. Трэба было прызнаць, што сама настаўніца наўрад ці справілася б з ёй.

... Яна была ўпэўнена: самым шчаслівым днём яе жыцця будзе той, у які вернецца з гэтай незразумелай (прынамсі, для яе) вайны муж. Яна марыла ад чутак, што ў тое ці іншае паселішча прывезлі некага адтуль, прывезлі ў цынкавай труне. Праўда, ніякай думкі, што гэта можа здарыцца з ім, яна не пускала ў сваю свядомасць, толькі неадкойчы лавіла сябе на тым, што бясконца паўтарае, як малітву, яго імя. І ўсё ж бяда хадзіла побач: неўзабаве ў цынкавай труне вярнуўся дадому сын знаёмай настаўніцы. Учарнелая ад гора жанчына абняла яе, нібы сваю дачку, і яны плакалі разам. Але на пахаванне яна не пайшла, ухапіўшыся, як за выратаванне, за жахлівую ў сваёй прастаце выснову: «Калі мне наканавана гэта ўбачыць, то яшчэ паспею...» Да ўсяго дадалося і «суцяшэнне» другой жанчыны, якую іншыя (і яна дагэтуль) лічылі мудрай: «Вы не былі на могілках? Ну і правільна, навошта? Сёння іхні, а заўтра Ваш...»

Доўгі час пасля яна не магла знайсці супакою, і позняя або вельмі ранняя званкі ў дзверы прыводзілі яе ў здранцвенне. Тады ж яна, сама не ведаючы, што рабіць, пісала маці: «Калі ён загіне, то і я пайду з жыцця... разам з дачушкай». Толькі потым прыйшло разуменне, чым быў гэты ліст для маці, якая жыла на другім канцы рэспублікі.

Потым... Жыццё адкладалася на потым. Але ўсё, што адбылося потым, не мела нічога агульнага з яе марамі пра самы шчаслівы дзень...

Хаця... Яе маленне, яе каханне — так казаў ён — збераглі яму жыццё. І дзень, у які ён раптоўна і нечакана завітаў у іх родную вёску, дзе яна была з дачушкай на канікулах, зіхоткі дзень на пачатку жніўня, быў такі падобны на Самы Шчаслівы, такі блізкі да яго — бо да замены, казаў ён, засталося менш за месяц.

У іх было ўсяго тры гадзіны часу — рэшткі ягонай камандзіроўкі «ў Саюз». У іх было ажно дзесяць тысяч васемсот імгненняў шчасця да яго ад'езду ў сталіцу, у аэрапорт, і апошняга адлёту туды. Яна, правеўшы яго, у вёску ўжо не вярнулася, бо неўзабаве пачынаўся навучальны год.

... Яе спалохаў ранні званок у дзверы: яна даўно чакала яго. І сапраўды, прынеслі тэлеграму. Яна ўсміхнулася нязвыкламу свайму спакою і ўпэўненасці, рукі не дрыжэлі здрадліва-трывожна. Толькі здзівілася, зірнуўшы ў акно, бо ясны досвітак зняняцку схмурнеў, а бэзавы куст амаль што слаўся па зямлі ад ветру, які налягаў богведама адкуль. Надыходзячы дзень быў зусім непадобны на той, што ўжо трывала адбіўся ў яе ўяўленні. З гэтымі міжвольнымі думкамі яна разгарнула вузенькую палоску тэлеграмы: «Прыбыла замена. Хутка ўбачымся. Справы дрэнныя». Ведаючы яго стрыманасць і заўсёдная жаданне ашчаджаць яе, яна жахнулася кантрасту першай і апошняй фразы. Схапіўшы з ложка цёплую дачушку, заплакала, загаласіла, не ўяўляючы, што думаць і што рабіць.

Але трэба было жыць і працаваць, і, амаль раздушаная невыноснай пакутай, яна ўсё ж некуды ішла, нешта рабіла, аб нечым з некім размаўляла, але, далібог, не змагла б растлумачыць, навошта ўсё гэта было. Бадай, ніхто ніколі на свеце так не чакаў нікога, як чакала яна паштальёна з новай весткай, і, каб сам паштальён ведаў гэта, то ён, канешне ж, хутчэй прынёс бы яе. Той ліст яна выхапіла са скрынкі на бягу, спазняючыся на злёт настаўнікаў-камсамольцаў, і разарвала канверт толькі седзячы ў першым радзе вялікай залы Дома культуры. «Мая любая, я буду жыць толькі дзеля вас з дачушкай... Што заўгодна, толькі не турма...» Скакалі ўвачу літары, бліталіся недарэчныя думкі: добра не нафарбавала вейкі, так лягчэй схаваць слёзы. Аднак яны літаральна сплывалі з вачэй, як той вераснёўскі дождж па шыбах, якога яна нават і не адчула, выбегшы з залы пад няўцямныя позіркі прысутных. Стоячы пад залевай, ліхаманкава хапала словы: «...ехаў на «Урале» з апошняй камандзіроўкі з Тэрмеза... на павароце пад коды матацыкліст... памёр на 5-я суткі... 18 год... мяне адразу пасадзілі ў камендатуру, каб яго сваякі-ўзбекі не...»

Дождж раптоўна скончыўся, на вымытым небе па-восеньску шчодра заблішчэла сонца. І гэта было так падобна на самы Шчаслівы Дзень, але яшчэ больш на адкрыты здзек, бо знешняе хараство так не пасавала да таго, што было ў лісце, што роспачна расло ў ёй!

... Адчай штурхануў яе, клікала каханне, калі яна, вясковая матуліна дачушка, якая не паспела яшчэ пабываць далей абласнога горада, дзе скончыла інстытут, сядала ў самалёт, што ляцеў на Ташкент. Тысячы метраў вышыні, тысячы кіламетраў адлегласці і, здавалася, усё яе існаванне ў часе, былое, цяперашняе і будучае, зліліся ў сямі гадзінах палёту ў невядомасць. А пузаты «кукурузнік» да Тэрмеза вытрас на паветраных ямах усё жывое з яе істоты, пакінуўшы толькі свінцовы цяжар бяды. Адступіла бяда, здалося, толькі на хвілінку, калі ён, у цемры гасцінічнага пакоя, сказаў дрыготкім голасам: «Ты са мною», і абняў яе, і прытуліў, і яна зайшлася ў гэтых няшчотна-роспачных абдымках.

Трыццаць дзён, якія яны былі разам, зрабілі яе дарослай і мудрай, разважлівай і цярплівай. Такіх урокаў жыцця яна да гэтага не прахадзіла. Праўда, наіўна сябе да іх рыхтавала. Трэба было ісці да бацькі загінуўшага хлопца, які, па злоснай іроніі лёсу, працаваў у мясцовай міліцыі. Яна падрыхтавала сябе да таго, каб прасіць, плакаць, нават, паспеўшы ўжо заўважыць і адчуць цікавасць мясцовых мужчын да «белых» жанчын, пайсці на ўсё... Каб толькі ўратаваць мару пра Самы Шчаслівы Дзень! Дзякуй Богу, саракапяцігадовы маёр-узбек не ўбачыў у гэтым змарнелым ад гора дзяўчаці «роскошной блондинки». Але не менш кашчунна прагучала з вуснаў бацькі іншая прапанова: «Вось адрас. Праз тры тыдні паставіш тут у гараж «Жыгулі», а я табе дам расліску, што прэтэнзій не маю. Толькі ні слова маёй жонцы, бо скажа — сына прадаў».

Пры гэтых словах яна намацала ў сумачцы стосік чырвонцаў (тысячу рублёў!), што прывезла з сабою, і жахнулася нязбытнасці сваіх мараў. Але прыязджалі з таго боку Аму-Дар'і яго сябры, ці ад сяброў, бянтэжачыся, савалі ім тыя ж стосікі рознай таўшчыні — і так яна засвойвала на практыцы панніцце «афганскае братэрства».

Засвойвалася, свядома ці не, і многае іншае: экзотыка гор з пакручастымі петлямі дарог, вузкіх вулічак старога Тэрмеза, цудоўных палацаў Самарканда часоў Шахерэзады, убораў і звычак мясцовых жанчын, паху хлебных ляпёшак і шашлыкоў, белага віна і зялёнага чаю... Усё гэта, замешанае на заўсёднай прысутнасці бяды, рабіла ўспрыманне свету абвостраным і нервальным.

... Яна ўсё ж дачакалася таго дня, калі следчы эксперымент даказаў, што ён невінаваты (а «Жыгулі», незалежна ад гэтага, стаялі па адрасе), і можна было вяртацца дамоў. Ён жа меўся яшчэ вярнуцца ў часць — гэта зусім блізка, казаў ён, ля перавала Саланг — і аформіць замену. Белы лайнер нёс яе ўсё далей ад яго, але, урэшце, усё бліжэй да шчасця. Так, прынамсі, тады ёй здавалася, бо вельмі многае — у тым ліку і Чарнобыль — магло, бадай, толькі прытрызніцца...

Празвінеў званок. Вучні, пакінуўшы на сталe цэлы месяц шчаслівага жыцця, выбеглі ў калідор. А яна падрыхтавала дошку для старшакласнікаў: «Страчанае пакаленне і яго лёс у літаратуры». У адрозненне ад першай тэмы, гэтую яна валодала даскапала.

---

## РЫХТУЕЦЦА МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ПА ДЭМАГРАФІЧНЫХ ПРАБЛЕМАХ РЭСПУБЛІКІ

У мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры адбылася рабочая нарада ініцыятыўнай групы па падрыхтоўцы і правядзенні ў Мінску міжнароднага кангрэса «Дэмаграфічныя праблемы Беларусі».

Склікание форуму дэмографаў, медыкаў, антраполагаў, спецыялістаў іншых гуманітарных спецыяльнасцяў даўно наспела, лічыць член аргкамітэта кангрэса доктар біялагічных навук Аляксей Мікуліч. Нагадаўшы пра тое, што працэс дэпапуляцыі насельніцтва Беларусі, пры якім смяротнасць перавышае нараджальнасць, ідзе ўжо з 1993 года, ён прывёў іншыя, маляведомыя лічбы, якія сведчаць аб злабадзённасці дэмаграфічных праблем. Па яго даных, ужо з канца ці нават сярэдзіны 70-х гадоў у сельскіх раёнах рэспублікі смяротнасць перавышала нараджальнасць, гэта значыць натуральны прырост быў адмоўным. Так, па Віцебскай вобласці ў 1979 годзе на 10.000 чалавек прыпадала ў сярэднім 98 нараджэнняў і 164 смерці. Ужо тады навуковыя экспедыцыі адзначалі павелічэнне частаты «экалагічных» захворванняў — скурных і лёгачных, што з'явілася вынікам шырокага прымянення мінеральных угнаенняў, інсектыцыдаў, дэфаліянтаў, гербіцыдаў, сродкаў для мыцця. Пры агульным зніжэнні нараджальнасці, адзначыў А. Мікуліч, няўхільна расце і дзіцячая смяротнасць. Так, у 1992 годзе на 10.000 насельніцтва Гомельскай вобласці перынатальная смяротнасць (г. зн. у першы тыдзень жыцця) складала 113 выпадкаў, у ў 1995-м — ужо 122. Расла і неанатальная (у першы месяц жыцця) смяротнасць нованароджаных. Па рэспубліцы яна ўзрасла за тыя ж 4 гады на 9,6 працэнта: з 75 смярцей да 83 на 10.000 чалавек насельніцтва.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

---

СЁННЯ

| ІМЯНІНЫ | МЕСЯЦ |
|---|---|
| **Пр. Васілія, Нікадзіма, Сцяпана**<br>**К. Марыі, Стэллы** | **Апошняя квадра — 13 жніўня.**<br>**З 23.01 — 23-ія месяцавыя суткі.**<br>**З 12.47 Месяц — у Блізнятах.** |

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні 5—10, уначы па ўсходу парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску і Віцебску — 18—20, у Брэсце і Магілёве — 19—21, у Гомелі — 20—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць. 16 жніўня на паўночным захадзе, 17-га месцамі па рэспубліцы кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні 5—10, пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ўначы 7—12, удзень 18—23, 16 жніўня на поўдні — да 25 градусаў вышэй нуля.

**Нефармалы з'явіліся колькі часу таму найперш як пратэст супраць тых рамак, у якія былыя партыйныя і камсамольскія лідэры імкнуліся «ўціснуць» усю моладзь. «Фармалы» заўсёды павінны былі быць правільнымі: у паводзінах, у думках, у знешнім выглядзе, словам, быць аднолькавымі. Калі ты нечым вылучаўся сярод астатніх, была рызыка аўтаматычна трапіць у лагер гэтых самых нефармалаў. Даходзіла нават да абсурду. Прыгадваю, як у восьмым класе дырэктар школы, падышоўшы да мяне на ўроку ззаду і ўзяўшы за, на яго погляд, занадта доўгія для школьніка валасы, гучна запытаў: «А гэта што за нефармал?!» З таго часу прайшло шмат гадоў, безумоўна, змяніліся і тыя, хто называюць сябе нефармаламі. Гэтыя нататкі не могуць прэтэндаваць на ўсебаковую аб'ектыўнасць, але яны дазваляюць крышачку па-іншаму паглядзець на «тусоўку» замест адзначана-катэгарычнага «дрэнь». Магчыма тыя з бацькоў, хто ў свой час таксама належаў да нефармалаў, пазнаюць сябе ў сённяшніх дзецях, магчыма, знойдуць іх, сучасных, зусім не падобных на куміраў свайго юнацтва....**

# «ХАДЖ» У «НЕФАРМАЛЫ»

У МІНСКУ адной з самых вядомых тусовак з'яўляецца «Перамога» (станцыя метро «Плошча Перамогі»). Пасля таго, як спынілі сваю дзейнасць «Панікоўка» (тусоўка, што збіралася ў скверы насупраць Дома афіцэраў), «Незалежнасць» (станцыя метро «Плошча Незалежнасці»), «Тройка» і «Пінгвін» (першая ў Траецкім прадмесці, другая — каля магазіна «Пінгвін» за ГУМам), большасць тых, хто прылічвае сябе да нефармалаў, прыйшлі сюды, каб тусавацца каля палыхаючага ў пераходзе ўдзень і ўночы кальца.

Як правіла, сучасны нефармал — гэта, ў большасці выпадкаў, падлетак ад 13 да 19 гадоў, у асноўным дзяўчаты. Амаль нічога не ведаючы пра тыя рухі, да якіх яны сябе адносяць, яны, тым не менш, грамагучна называюць сябе панкамі і анархістамі, скінамі і дэйзерамі, пацыфістамі і інш. Калі раней у нефармалы ішлі тыя, чые думкі і светапогляд значна адрозніваліся ад падобнай большасці (такімі былі хіпі ў 60-х і рокеры з металістамі — у 80-х), то зараз — усё наадварот. У сярэдзіне 90-х раптам памянялася мода. У асяроддзі найперш моладзі нефармалы пачалі набываць папулярнасць. Зрэшты, гэтыя тусоўкі можна было б назваць як заўгодна, бо заўсёды моладзь збіралася разам — і нашы бацькі, і іх бацькі. Ці не таму змяніўся сам сэнс слова «нефармал»?

Так, калі раней нефармалы былі пагалоўна ідэалістамі, то цяперашняе пакаленне нават не ставіла сабе за мэту пазнаць тое, да чаго яны сябе прылічваюць. Раздзяленне на панкаў ці анархістаў цяпер ідзе не па «ідэйнаму прынцыпу», а... па той музыцы, якую яны слухаюць. Так, прыхільнікі «Нірваны», ведаючы пра анархічны светапогляд яе лідэра Курта Кобэйна, сталі называць сябе анархістамі, прыхільнікі «Грын-Дэя» — пацыфістамі і панкамі... Не ведаючы толкам ні мэтаў, ні гісторыі руху, да якіх яны сябе адносілі, падлеткі ўнеслі блытаніну ў стан нефармалаў. Напэўна, нездарма «старажылы» празвалі іх «дзецьмі тусоўкі».

Бытуе думка, што нефармалы — тыя ж хуліганы, таму і папаўняюць іх рады «цяжкія» падлеткі з дрэнных сем'яў. Ці так гэта? Каб «прыкінуцца» (займець байку ці бандану), патрэбны грошы, і не малыя. Так, напрыклад, каб купіць байку, патрэбна ад шасцісот тысяч да мільёна рублёў, сярэдняя цана на бандану (нефармальская хустка з сімваламі, малюнкамі ці надпісамі) — каля ста тысяч, кулон, у залежнасці ад памеру, віду ці надпісу на ім, каштуе ад сямідзесяці да ста тысяч рублёў. Згадзіцеся, што сума, якая атрымліваецца ў выніку, з'яўляецца вялікай не толькі для цяжкіх, але і для забяспечаных слаёў грамадства. А калі ж кандыдат у панкі не будзе мець хаця б адной з пералічаных рэчаў, цяперашнія нефармалы, што, як вядома, сустракаюць па адзенні, проста-напраста не прымуць гэтага «кандыдата» ў свае рады. А «цяжкім» падлеткам дарога закрыта таксама і таму, што пранікнуць у рады нефармалаў магчыма, у асноўным, толькі па рэкамендацыі аднаго з прадстаўнікоў. А калі нефармалы выявяць, што «кандыдат» не чысты на руку ці хаця б проста стаіць на ўліку ў ІДН, то могуць пагнаць з тусоўкі не толькі гэтага «нефармала», але і таго, хто яго прывёў. Калі ж хто-небудзь з нефармалаў украдзе якую-небудзь рэч у нефармала, што па тутэйшых законах з'яўляецца амаль самым вялікім грахом, то такога могуць не толькі пагнаць з той тусоўкі, але і паведаміць аб гэтым іншым нефармалам. Канешне, і тут ёсць свае хуліганы, але дзе іх няма?



Адкуль бяруцца грошы? Большасць з іх, напрыклад, на піва і цыгарэты зарабляюць самай што ні на ёсць працай: прадаюць газеты ў электрычках і падземных пераходах, мыюць на стаянках і бензазапраўках іншамаркі, выконваюць розныя дробныя паслугі і інш. Мільёнаў яны, канешне, не зарабляюць, але на бутэльку піва і пачку «элэма» — хапае.

Пасля падработкаў — ідуць на тусоўкі. Як правіла, гэта робіцца вечарам. Прычым, што б мы ні казалі пра сваю адданасць ідэі і тусоўцы, прыходзяць яны на апошнія даволі нерэгулярна. Так, напрыклад, за тыдзень той ці іншы нефармал можа паявіцца на тусоўку адзін ці два разы, бываюць выпадкі, калі за месяц можа не прыйсці ўвогуле, што ўжо гаварыць аб тым, што нефармальны лад жыцця яны не лічаць асноўным і тусоўка для іх не з'яўляецца самым галоўным на свеце.

Хто ён — цяперашні тыповы нефармал? Так, апошнім часам на «Перамогу» пачала часта прыходзіць Іра Ш. з Чыжоўкі. Пятнаццацігадовая дзяўчына не знайшла дома паразумення з бацькам, якому не падабаецца тая музыка, што слухае яго дачка. Аднойчы ён схаваў магнітафон з касетамі. З таго часу Іра пасля школы і пачала збягаць на тусоўку. Але бацька ўжо не аднойчы забіраў Іру дамоў прама з тусоўкі, па чарзе аб'язджаючы іх на сваёй машыне. Чым не прыклад адвечнай праблемы бацькоў і дзяцей? Увогуле ж многія разумеюць, што будучае залежыць не толькі ад тусоўкі, але і ад адукацыі. Таму шмат такіх, хто прайшоўшы праз тусоўкі, кінуў усе прылады на шафу і пасляхова здаў экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**Сяргей ПШОНКА,**
**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВПС Беларусі гарантуюць надзейную абарону. Пакуль да 2015 года...

**80 гадоў таму на тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя ваенна-паветраныя сілы.**

На прэс-канферэнцыі, якую напярэдадні Дня ваенна-паветраных сіл Беларусі правёў камандуючы гэтага роду войскаў генерал-маёр Сяргей Булыгін, журналістаў запэўнілі ў поўнай баявой гатоўнасці айчынных ВПС.

Да распаду СССР у Беларусі знаходзілася адна з наймацнейшых паветраных армій. Незалежнай рэспубліцы такія ВПС былі не па кішэні, ды і неабходнасці ў іх не было. Пачалася рэформа, у выніку якой уся дальняя авіяцыя перайшла да Расіі. Вялікая колькасць ваенных часцей была скарочана. У нас усё ж засталася франтавая, армейская, транспартная, знішчальная авіяцыя, авіяцыя радыёэлектроннай барацьбы... Толькі сёлета былі праведзены тры лётна-тактычныя вучэнні, на якіх адпрацоўваліся перабазіраванне і ўдары кіруемай і некіруемай зброяй.

Узбраенне і баявыя машыны беларускіх ВПС аналагічныя расійскім: той жа СУ-24М (бярэ на борт да 8 тон бомбаў, тактычны радыус дзеяння — 800—1000 кіламетраў; магчымасць выконваць баявыя задачы па-за бачнасцю зямлі, на мінімальнай вышыні 100—200 метраў, абгінаючы рэльеф), той жа штурмавік СУ-25, ІЛ-76, верталёты МІ-24, МІ-26 (здольны перавозіць да 20 тон грузаў!), МІ-8... Па словах камандуючага, на кожную баявую машыну падрыхтаваны боегатоўны экіпаж. Аднак па шэрагу прычын, перш за ўсё — недастатковае фінансаванне, налёт нашых авіятараў пакідае жадаць лепшага. Калі пры былым Саюзе гадавы налёт ваенных лётчыкаў складаў дзесьці 60—70 гадзін, то зараз гэта лічба скарацілася да 35—40 гадзін.

Яшчэ адна праблема — знос тэхнікі. Дзве авіярамонтныя базы (Орша, Баранавічы) дазваляюць праводзіць рамонт практычна ўсіх тыпаў машын. Адно, што рухавікі да іх прыходзіцца рамантаваць ці ў Расіі, ці на Украіне. У сярэднім самалёт «жыве» 25 гадоў.

Камандуючы ВПС лічыць, што дзесьці да 2010—2015 года ВПС Беларусі захаваюць сваю баяздольнасць. «А там ужо эканоміка краіны, спадзяюся, дазволіць закупіць новыя машыны», — падзяліўся камандуючы.

Згодна з указам прэзідэнта трэцюю нядзелю жніўня (сёлета 16 чысла) адзначаецца Дзень ваенна-паветраных сіл Беларусі. 14 жніўня ў Доме афіцэраў адбудзецца ўрачысты сход часцей ВПС Мінскага гарнізона. У ва ўсіх астатніх гарнізонах пройдуць аналагічныя мерапрыемствы. 15 жніўня на аэрадроме «Баранавічы» ў 9.00 адбудзецца паказ авіяцыйнай тэхнікі і боепрыпасаў на зямлі. У 10 гадзін ваенныя лётчыкі пакажуць, на што яны здольныя ўжо ў паветры. Уваход для ўсіх жадаючых свабодны. Тым, хто да Баранавіч дабрацца не здолее, засмучацца не варта — 16 жніўня на ўсіх авіяцыйных базах адбудзецца дзень адчыненых дзвярэй, будзе выстаўлена ўся тэхніка.

Журналістаў зацікавіла, што ж пры такой раскладцы будзе з «ваенным сакрэтам»?

Генерал-маёр Булыгін заўважыў, што ў сучасных умовах увогуле сакрэтаў засталося вельмі мала: «Згодна з дамоўленасцю нас кантралююць замежныя спецыялісты, мы кантралюем іх. Аднак тыя сакрэты, якія ў нас ёсць, не даведаецца ніхто», — запэўніў камандуючы.

**Сяргей ПРОТАС.**

*ЗОРНЫ ЧАС*

## «Секс-сімвал» Расіі Уладзімір МАШКОЎ:

# «Я БЫЎ ЗАКОНЧАНЫМ МАКСІМАЛІСТАМ»

**Уладзімір Машкоў, вядомы як акцёр, прадставіў як рэжысёр фільм «Сірата казанская». Сам ён лічыць, што раздзяліўся яшчэ на генетычным узроўні, бо мама яго была рэжысёрам тэатра, а бацька — акцёрам. Праўда, да гэтага ў яго было 4 тэатральныя пастаноўкі. Зараз ён працуе ў тэатры пад кіраўніцтвам Табакова.**

**— Як, на ваш погляд, ці многа высокамастацкіх твораў можа прапанаваць для пастаноўкі сённяшні дзень?**

— Усё мастацтва — дастаткова суб'ектыўнае. Я так гавару, таму што стаю зараз на ліберальнай пазіцыі. Нават тое, што не падабаецца — імкнуся не адмятаць, а спрабую разумець. Калі ўзгадаць «Сірату казанскую» — мяне вельмі задаволіла гэтая гісторыя, на дадзеным прамежку часу. Імкнуся адносіцца да таго, што раблю, больш-менш аб'ектыўна. Ніхто, акрамя мяне, не ведае, наколькі добра ці дрэнна тое, што я раблю. Мне падалося, што гэта гісторыя добрая, пяшчотная, лірычная. Я хацеў зрабіць простую, амаль прымітыўную гісторыю, каб не глядзелі людзі — і плакалі, і смяяліся. Паверце, гэта вельмі складана. Намнога прасцей зрабіць аўтарскае кіно, «кіно не для ўсіх». Такое маё суб'ектыўнае меркаванне. Я хацеў зрабіць простую карціну і аддаць даніну сваім любімым артыстам — Алегу Табакову, свайму настаўніку, Валянціну Гафту, якога вельмі моцна люблю, Льву Дураву. Думаю, мала хто сабраў бы іх разам.

**— Табакову ўдалося стварыць сваю «Фабрыку мрояў», дзе рыхтуе новыя пакаленні акцёраў. Як яму гэта ўдаецца? Ці ёсць у вас, чалавека, прайшоўшага гэтую школу, сваё тлумачэнне?**

— Так, Табакоў парадаксальны чалавек. Калі расказаць, як ён займаецца распрацоўкай акцёрскіх талентаў, то вы здзівіцеся. Зараз ён стаў спакойны — нарадзіўся сын маленькі, Табакоў увесь такі добры... А калі я вучыўся, у яго была тэорыя пад назвай «селекцыя». Я трапіў у самы эпіцэнтр. Ён мяне ненавідзеў, наўрад ці хто яшчэ можа так ненавідзець. У яго была задача: вынішчыць чалавека. І калі чалавек не мае моцнай вытрымкі волі, то павінен пайсці. У нас было 30 чалавек на курсе. Да чацвёртага дайшлі 10. Але засталіся самыя загартаваныя. Ён вельмі таленавіты чалавек, талентам дастаткова з'едлівым. Чаму ён мяне не любіў? Я прыйшоў з пэўнымі навыкамі на курс. Выкладчыкі не любяць людзей, якія нешта ўжо ўмеюць. Таму галоўнай яго задачай было — сцягнуць налёт «умеласці» і зрабіць белы ліст, каб пачаць нанова пісаць. Але я чалавек сібірскі, валявы, вельмі супраціўляўся такому ціску. На працягу трох гадоў ён не даваў мне зрабіць крок па сцэне. Я ўставаў. Ён казаў: «Валодзя, так лепш не ўставаць». Я адчыняў дзверы і чуў: «Не бярыся так за ручку...» Калі мы разбілі паказ урыўкаў, ён потым рабіў разборку поўную. Прычым рабіў гэта дасціпна і смешна, што зала з 20 чалавек-студэнтаў памірала са смеху, а ты гатовы быў выкінуцца ў акно. Многія не вытрымлівалі чыста псіхалагічна. Але для яго было галоўнае, каб у чалавека не наступіў параліч волі. Ён прымушаў працаваць. Кожны дзень мы павінны былі прынесці па 2 новых ўрыўкі. Жудаснае было жыццё з аднаго боку. З другога — цудоўнае, бо вельмі нас загартавала. Тых 20 чалавек, якія адсеяў, усе паступілі. А сакрэт у тым, што дзякуючы выдатнаму чуццю ён адбірае таленавітых. Усе, хто ў яго вучыліся, уладкаваны і пасляхова працуюць.

**— Вы на яго не трымаеце крыўды? Не маеце жадання адыграцца?**

— Хіба што ў кіно. Ён многаму мяне навучыў. У прафесійным плане, таму што вельмі дакладны чалавек. У прафесійным акцёрскім разборы вобраза яму няма роўных. Табакоў у меншай ступені рэжысёр. Ён мяне не зламаў, таму зараз паміж намі любоў і сяброўства. Я яму нешта даказаў і ён ад мяне нечага дабіўся. Я стаў больш цярплівы. А раней быў зусім кончаным максімалістам.

**— Вас называюць рускім Антоніо Бандэрасам. Увогуле шчодра адорваюць рознымі тытуламі, у тым ліку «секс-сімвал» Расіі. А калі ўлічыць вашу цягу да рэжысуры, то ўзнікае пытанне: ці не збіраецеся канчаткова перайсці ў ранг кінаакцёраў?**

— Тое, што я раблю ў кіно, вельмі адрозніваецца ад таго, што я раблю ў тэатры. Першая мая роля ў тэатры, якую і да цяперашняга часу іграю, была ў п'есе «Матроская цішыня» Галіча. Я іграў Абрама Ільіча Шварца, яўрэя, якому 70 гадоў. У тэатры я раблю ролі характэрныя. У кіно болей выкарыстоўваю дадзеныя, якімі надзяліла прырода і тата з мамай. Тэатр — зусім іншае месца, дзе сябе адчуваю зусім свабодна. Проста кіно яшчэ глядзяць. А тэатр у нас невялікі — 100 месцаў.

**— Вельмі засмуціліся, што фільм «Злодзей» не атрымаў «Оскара»?**

— Магчыма, падумаеце, што хітрую. Але скажу — не. Я вельмі многа атрымаў розных прэмій. Шчасце і радасць яны прыносяць не надоўга. Я вельмі спакойна да гэтага стаўлюся.

**— Вы ў двух карцінах здымаліся з хлопчыкам Мішам. Ці можна ўжо сказаць, што з'явілася новая зорка?**

— Яго знайшоў Паша Чухрай, прагледзеўшы 200 ці 300 дзяцей. Ён выбраў Мішку. Хлопчык з сям'і, якая не мае адносінаў ні да кіно, ні да тэатра. Хлопчык ён таленавіты, сімпатычны. Але гаварыць пра тое, што з ім будзе далей, — немагчыма. На жаль, так заўсёды здараецца, дзеці, якія рана пачынаюць здымацца, потым часта страчваюць абаяльнасць, становяцца іншымі.

**— Ці добрым ён быў партнёрам?**

— Дзіця нават на здымачнай пляцоўцы знаходзіцца ў стане гульні. Яму не растлумачыш, што адбываецца на самай справе. І была адна гісторыя, дастаткова жудасная для мяне. Але добра скончылася. У карціне «Злодзей» была сцэна, дзе ён кідаецца на мяне з нажом, потым плача. Хлапчанё было ўлюбёнае ў мяне. Прымусіць яго глядзець на мяне з нянавісцю было немагчыма. Зрабілі 30 ці 40 дубляў, ён не плача, займаецца сваёй дзіцячай справай. Тады Паша падыходзіць і гаворыць: «Міша, прыйдзецца цябе стукнуць, ты не плачаш». І да мяне: «Набі яго». Я не магу стукнуць дзіця. Тады гэты маленькі хлопчык кажа: «Вова, стукні, а то я спраўды не плачу». Чалавек прафесійны. Уключылі камеру. Я не ўдарыў яго, а даў плескача. Гэта было не балюча, хутчэй крыўдна. Ён плакаў ад таго, што я гэта зрабіў. Потым сказаў: «Я разумею, гэта работа». А калі глядзець у кіно — жанчыны страчваюць прытомнасць ад таго, як хлопчык іграе. На самой справе ўсё інакш.

**— А вы не атрымлівалі заманлівых прапаноў ад галівудскіх студый?**

— Чаму — не. Ведаеце, яны любяць запрашаць рускіх на некаторыя ролі ў баевіках, своеасаблівых такіх прадстаўнікоў усходняй мафіі. Але я лічу заганай іграць нашых людзей у мафіі.

**— Праца ў кінематографе складвалася лёгка?**

— Лічу, што маё жыццё ў кіно ідзе шчасліва. Я здымаюся ў сяброў. Ці наадварот сябрую з рэжысёрамі, у якіх здымаюся. Вельмі гэтаму рады, бо бывае, што пасля доўгай працы людзі страчваюць цікавасць адзін да другога. Нядаўна скончыліся здымкі ў карціне Дзяніса Еўсцігнеева, дзе будзе іграць яшчэ Нона Мардзюкова, якую 18 гадоў не бачылі на экране, і яшчэ шэраг знакамітых акцёраў. У верасні заканчваюцца здымкі ў рэжысёра Аляксандра Брошкіна. Нагадаю больш значныя яго работы: тэлевізійны серыял «Ламаносаў», «Халоднае лета 53-га». У новай яго карціне «Рускі бунт» паводле Пушкіна я іграю Емяльяна Іванавіча Пугачова, як гэта ні дзіўна. У пачатку наступнага года фільм выйдзе.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

# Крыжаванка



**Па гарызанталях:** 9. Беларускі краязнаўца і этнограф XIX ст. 10. Беларускі пісьменнік, аўтар зборніка «Песня над палямі». 11. Самы нізкі па гучанню смычковы інструмент. 14. Савецкі пісьменнік, аўтар аповесці «Вясна на Одэры». 15. Удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці ў часы Вялікай Айчыннай вайны. 16. Літаратурна-мастацкі часопіс, што выдаваўся ў Мінску ў канцы 20-х гадоў. 17. Вядомы беларускі вучоны ў галіне нармальнай анатоміі. 18. Старажытнагрэчаскі гісторык. 19. Арганічнае злучэнне, насычаны вуглевадарод. 23. Самародны мінерал, крышталічны вуглярод. 24. Сталіца Марока. 25. Задыякальнае сузор'е. 27. Славуты старажытны парк у Нясвіжы. 28. Вартасць, абазначаная на грашовых знаках, каштоўных паперах. 29. Прамая, якая праходзіць праз пэўны пункт крывой. 31. Прыбытак, выгада ад гандлёвай здзелкі. 32. Паўднёвая расліна сямейства матыльковых. 34. Раённы цэнтр у Магілёўскай вобласці. 37. Надакучлівае насякомае атрада двухкрылых. 40. Сталіца Афганістана. 42. Мінерал, асноўны карбанат медзі. 44. Даўнейшае беларускае народнае адзенне. 45. Папулярны кандытарскі выраб. 46. Літары мовы, расстаўленыя ў пэўным парадку. 48. Герой Савецкага Саюза, беларус. 49. Рускі акцёр-трагік, прадстаўнік класіцызму. 50. Дагавор, які замацоўвае саюз царквы і дзяржавы. 51. Рускі пісьменнік XIX ст., аўтар шматлікіх твораў на «сібірскую» тэматыку.

**Па вертыкалях:** 1. Рыба сямейства карпавых. 2. Камутацыйны апарат. 3. Глабальная галіна медыцыны. 4. Старажытнагрэчаскі скульптар, прадстаўнік афінскай школы. 5. Прыстань на рацэ Прыпяць. 6. Член спартыўнай іграво камандры. 7. Дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы. 8. Стылёвы прыём у літаратуры. 12. Былая калонія Вялікабрытаніі на востраве Калімантан. 13. Прыток ракі Арэсы. 14. Метал, хімічны элемент. 20. Стваральнік новага, прагрэсіўнага ў вытворчасці. 21. Князь, рускі палкаводзец, фельдмаршал (XVIII ст.). 22. Сплаў на аснове нікелю і алюмінію. 23. Гранёны каменны слуп, помнік. 25. Разнавіднасць лінолеуму. 26. Трывалая тоўстая вяроўка. 30. Звярок з каштоўным футрам. 31. Рускі народны струнны інструмент. 33. Вецер разбуральнай сілы. 35. Электрычная ацяпляльная прылада. 36. Марка папулярнай сокавыціскалкі, выпускаемай у Беларусі. 38. Тлусты малочны прадукт. 39. Ягада-плод пальмы. 41. Аміячнае ўгнаенне. 43. Грашовая ўзнагарода за аўтарскі твор. 46. Правы прыток у дэльце Дона. 47. Прадукт працы.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ,** *г. Мінск.*

## Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка (8 жніўня). Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Рычаг. 2. Скурат. 3. Сатрап. 4. Князь. 5. Рызыка. 6. Далонь. 7. Фургон. 8. Арэнда. 9. Фугас. 10. Катах. 11. Азарт. 12. Сабатаж. 13. Дуброва. 14. Аркестр. 15. Контур. 16. Сак. 17. Аркада. 18. Рак. 19. Бак. 20. Орган. 21. Балет. 22. Заклік. 23. Такса. 24. Тырада. 25. Замова. 26. Дах. 27. Студыя. 28. Прыпол. 29. Партал. 30. Сфера. 31. Прысмак. 32. Грань. 33. Лімфа. 34. Града. 35. Драбок. 36. Націна.

# Аўдыё- і відэапірацтву хутка аб'явяць вайну

**Сёння ў Беларусі створаны і дзейнічае рынак па вытворчасці і распаўсюджванню музыкальнай і відэапрадукцыі. На жаль, гэта сфера дзейнасці ў нашай краіне зараз не падпарадкоўваецца ніякім законам. Вытворцы працуюць без ліцэнзіі, амаль паўсюдна парушаюцца аўтарскія правы.**

По меркаванню намесніка міністра культуры Беларусі Юрыя Цвяткова, шырокае развіццё пірацтва ў сферы аўдыё- і відэабізнесу стала магчымым таму, што адсутнічае адзіная сістэма кантролю, не адпрацавана як след заканадаўства ў гэтай галіне, і галоўнае, што на практыцы наогул не выконваецца закон рэспублікі Беларусь «Аб аўтарскім праве і сумежных правах», які пачаў дзейнічаць яшчэ з 1996 года. На думку Юрыя Мікалаевіча, гэта праблема ў рэспубліцы будзе вырашацца даволі доўга і балюча. Каб дасягнуць нейкіх поспехаў у гэтым напрамку, спатрэбіцца, па словах міністра, не меней 5 гадоў.

А пакуль айчынныя, нават буйныя вытворцы аўдыё- і відэапрадукцыі самі з'яўляюцца піратамі, бо ў сучасным прававым полі не могуць дазволіць сабе працаваць з ліцэнзійнай прадукцыяй.

Але выйсце з гэтага становішча ўсё ж такі ёсць. Як лічыць прэзідэнт Беларускай асацыяцыі вытворцаў аўдыё- і відэапрадукцыі Яўген Прыбыткоў, разам з законам аб аўтарскім праве павінны былі распрацоўвацца падзаконныя акты. А сёння ў адміністрацыйным кодэксе не вызначана, хто мае права канфіскаваць неліцэнзійную касету, ці хто будзе складаць акт, каб потым узбудзіць адміністрацыйную ці крымінальную справу супраць парушальнікаў аўтарскіх правоў.

На думку членаў асацыяцыі, кантроль за выкананнем закона аб аўтарскіх правах могуць і павінны рабіць дзяржаўныя падатковыя інспекцыі і міжраённыя аддзелы падатковых расследванняў. Менавіта яны маюць права канфіскаваць любыя віды тавараў, калі яны не падмацаваны неабходнымі дакументамі.

Падатковая інспекцыя павінна абавязкова правяраць у гандляроў аўдыё- і відэапрадукцыі наяўнасць дагавораў з праваўладальнікамі, наяўнасць ліцэнзіі на кожны від дзейнасці і колькасць дапушчанай праваўладальнікам да гандлю прадукцыі. Калі гэты механізм пачне працаваць — відэапіратам у Беларусі рабіць будзе няма чаго, лічаць прадстаўнікі асацыяцыі.

**Сяргей КУРКАЧ.**



*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ОЙ, Я ЖЫТА ДЫ НЕ СЕЯЛА

У яркую вакальна-харэаграфічную сцэнку ператварылася выступленне зоркі беларускай эстрады Лікі на сёлетнім фестывалі «Славянскі базар». Пры выкананні песні «Ой, я жыта ды не сеяла» (словы народныя, музыка Якава Навуменкі) разам з мужчынскай групай Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі яна стварыла запамінальны вобраз гарэзлівай, вольнай у выбары, прывабнай дзяўчыны. Мелодыя і тэкст песні надзвычай спрыялі выяўленню яе душэўнага хараства, падцененага знешняй гуллівасцю.

Ліка імкнецца падабраць для свайго рэпертуару такія творы, якія можна сыграць на сцэне. І таму летась, падчас сумесных выступленняў у Саратаўскай вобласці, папрасіла ў Якава Навуменкі гэтую песню. Тады ў дарозе Якаў пазнаёміў калег са сваімі планамі. Добры знаўца беларускага фальклору, ён вырашыў пераапрацаваць некаторыя народныя вакальныя творы. І песню «Ой, я жыта ды не сеяла» (запісаную В. Елатавым у 1957 годзе ў вёсцы Доўгае Шчучынскага раёна), якую Генадзь Цітовіч змясціў у «Анталогіі беларускай народнай песні», падаў у сучасных рытмах, а з 2-й і 3-й страфаў зрабіў прыпеў. Новы вакальны твор засвяціўся незвычайным ззяннем, набыў агнявы характар.

Упершыню песня «Ой, я жыта ды не сеяла», створаная Якавам Навуменкам на тэкст народнай песні, прагучала сёлета ў адным з майскіх выпускаў радыётэатра сатыры і гумару «Вясёлы эфір», а праз некалькі хвілін яе прадставілі ў радыёперадачы «Песня для вас».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## Ой, я жыта ды не сеяла

***Словы народныя***
***Музыка Якава Навуменкі***

*Ой, я жыта ды не сеяла,*
*Само яно ўсходзіць.*
*Ой, я хлопцаў ды не любіла,*
*Самі яны ходзяць.**
*Прыпеў:*
*Не хадзіце, мае хлопчыкі,*
*Каля майго саду.*
*І не думайце, малойчыкі,*
*Што я дам пасаду.*
*Не хадзіце, мае хлопчыкі,*
*Я не ваша буду.*
*Я й удала, я й харошая,*
*Без вас перабуду.*
*Не хадзіце, мае хлопчыкі,*
*Каля маёй хаты,*
*Не тапчыце вы, малойчыкі,*
*Мае руты-мяты.*
*Прыпеў.*
*Не для вас яе пасеяла,*
*Штодзень палівала,*
*Для таго яе пасеяла,*
*Каго я кахала.*
*Прыпеў.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




*ЦІКАВА*

## НАПЕРАДЗЕ МАРС

Згодна з меркаваннем амерыканскіх спецыялістаў, ажыццявіць місію гістарычнага значэння, у выніку якой чалавек упершыню ўступіць на загадкавую планету, можна ўжо праз 8 гадоў. Для адпраўкі пілатуемага касмічнага карабля на Марс практычна ўсімі неабходнымі тэхнічнымі сродкамі забяспечана Нацыянальнае ўпраўленне па аэранаўтыцы і даследаванню касмічнай прасторы ЗША (НАСА).

У хуткім часе дзве аўтаматычныя касмічныя станцыі будуць вывучаць марсіянскія тайны, што ў многім пасадзейнічае адпраўленню першай экспедыцыі на Марс.

## 36,6°

### Знясіленне шкодзіць...

Такі вынік даследавання, праведзенага ва універсітэце Таронта (Канада). Падчас галадання маса нервовых клетак, з якіх складаецца шэрае рэчыва мозгу, змяншаецца. І ў далейшым, калі галаданне спыняецца і пацярпелы набірае ранейшую вагу, загінуўшыя клеткі ўжо больш не аднаўляюцца.

### Замест аперацыі — атрута

Згодна з прагнозамі вучоных, у новым тысячагоддзі першае месца сярод іншых хвароб з лятальным канцом сярод прадстаўнікоў моцнага полу зойме захворванне на прастату. Зараз лячэнне хворых праводзіцца толькі аперацыйным шляхам. Але ўжо з гэтага часу аперацыйны стол хворым на прастату заменіць рыба фугу, хоць і смяротна небяспечная, але, як высветлілася, вельмі смачная і гаючая.

Яд тэтратаксін, які яна выдзяляе, як лічыць 44-гадовы турэцкі прафесар Мустафа Джамгез, або поўнасцю знішчае запаленчыя клеткі, або ў значнай меры перашкаджае далейшаму павелічэнню іх колькасці. Гэта ўжо доказана на доследах у лабараторыях пры правядзенні эксперыментаў над клеткамі жывёл і чалавека. Масавая вытворчасць лякарства супраць страшнай хваробы пачнецца выраблiцца праз пяць гадоў.

### Самі сабе шкодзім

Забруджванне навакольнага асяроддзя аказвае ўплыў на маральны стан грамадства. Да такой высновы незалежна адзін ад аднаго прыйшлі вучоныя-эколагі з Вялікабрытаніі і ЗША. Асабліва шкодны свінец, які парушае функцыянаванне цэнтральнай нервовай сістэмы. Амерыканскія вучоныя правялі даследаванні сярод школьнікаў-падлеткаў. Пры параўнанні атрыманых даных выявілася ўстойлівая тэндэнцыя: чым вышэйшая канцэнтрацыя гэтага металу ў арганізме чалавека, тым больш ён схільны да агрэсіі. Эколагі англічане выявілі, што на асобных тэрыторыях іх краіны, у вялікай ступені забруджаных свінцом, назіраецца самы высокі ўзровень алкагалізму, а злачыннасць у некалькі разоў вышэй за сярэдні ўзровень.

### Роля рэпчатай цыбулі ў гісторыі

Вас гэта здзіўляе? Аднак без яе ніколі не была б пабудавана піраміда Хеопса, таму што з будаўнікамі разлічваліся менавіта цыбуляй. У Грэцыі воінаў заклікалі есці цыбулю для таго, каб павысіць іх баяздольнасць. Вікінгі вытрымлівалі свае працяглыя паходы толькі дзякуючы ўжыванню ў ежу рэпчатай цыбулі.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

## *ВІНШАВАННІ*

Віншуем з 80-годдзем любага дзядулю з в. Лабзова **Паўла Паўлавіча ВЕНСКАГА**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, добрага настрою.

**Дзеці, унукі,** *г. Гродна.*

Шчыра віншуем з днём нараджэння **Юрыя Мікалаевіча ДУБАЎЦА**. Жадаем здароўя, поспехаў штодзённа, дабрабыту, радасці.

**Настаўнікі,** *в. Красны Дар.*

Шчыра віншуем з юбілеем **Таццяну Мацвееўну ДЗЕМІДОВІЧ**. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

**Дзеці, унукі,** *в. Магільнае.*

Жадаем здароўя і шчасця **Вользе ХУРСІК** у вёсцы Савашы з нагоды дня нараджэння.

**Бацькі, школьная сяброўка Лена.**


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 4891.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12